

# Зноў за партай

Рэбяты! Вось і лета падыходзіць к канцу. Усе мы добра адпачылі ў піонерскіх лагерах, загарэлі на сонцы, добра паправіліся, а зараз прыступілі зноў да вучобы.

Наша партыя, совецкі ўрад і дарагі наш правадыр таварыш Сталін вельмі многа клапацяцца аб нас, каб мы мелі добрых настаўнікаў, утульныя школы, каб мы мелі добрыя падручнікі, сшыткі, алоўкі. Усё дадзена нам, каб мы вучыліся толькі на „выдатна“. Таму, рэбяты, і абавязаны мы вучыцца ў школе так, каб таварыш Сталін сказаў—„Выдатна, рэбяты!“

Ужо з першых дзён вучобы мы павінны вучыцца старанна, уважліва, слухаць тлумачэнні настаўнікаў, быць дысцыплінаванымі, своечасова рыхтаваць урокі. Ёсць сярод нас і такія вучні, якія лічаць, што з першых дзён неабавязкова вучыцца добра, таму што вучэбны год яшчэ ўперадзе. Але так думаць—няверна. У такіх рэбят атрымоўваецца так, што яны нават самі не прымячаюць, як пачынаюць адставаць ад сваіх таварышоў, а потым дагнаць у вучобе свой клас вельмі цяжка.

У нашай краіне сорамна сядзець вучню па два годы ў адным класе. Нам-жа прадастаўлены ўсе ўмовы для добрай вучобы, і таму мы павінны сапраўды добра вучыцца, дапамагаць адстаючым спаборнічаць паміж сабой за лепшую адзнаку, каб увесь клас з'яўляўся перадавым.

У гэтым нам, безумоўна, многа дапамогуць нашы настаўнікі.

Пачатак кожнага новага вучэбнага года—вялікае свята ўсёй нашай краіны. Увесь наш народ з вялікай увагай сочыць за вучобай кожнага з нас. Вось чаму няма для нас больш пачэснага абавязка, як добра вучыцца.

У школе кожны з нас таксама знойдзе чым займацца ў вольны ад вучобы час. Тут і работа гурткоў, розныя гульні, паходы ў кіно, чытанне цікавых кніжак, і г. д.

У кожнага вучня павінна быць адно жаданне: імкнуцца, каб яго клас і школа ў цэлым з'яўлялася перадавой, каб у ёй усе рэбяты добра паспявалі і былі дысцыплінаванымі. А для гэтага патрэбна, каб кожны з нас сапраўды вучыўся так, як належыць дзецям совецкай краіны.

Вучэбны год пачаўся 1 верасня. Пачалі вучобу дзесяткі мільёнаў дзяцей нашай краіны. Краіна спадзяецца, што кожны дзень нашы школы пакажуць узоры работы. А мы ўсе будзем займацца толькі на „выдатна“ і „добра“.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Жнівень № 8 1939 г.



# Сцяпанавы дзеці

*Апавяданне К. ЧОРНАГА*

*Рысункі А. ШАХРАЯ*

Парой, блізкай да канца лета, я праязджаў праз тыя родныя мясціны, дзе нарадзіўся і вырас. Усё даўнейшае прайшло і мінулася, і я стараўся пазнаваць лясы і дарогі, вёскі і паасобныя дрэвы. Я ўспамінаў мінулае, думаў пра тое, як жылося тут раней, і сэрца маё сціскалася. Я акідаў вачыма ўсё навокал сябе, і мне захацелася даўжэй пабыць тут. І я задумаў прайсці пехатой праз некалькі вёсак.

Дарога была людная, шасейная, па ёй раз-по-разу імчаліся машыны. Паабапал было поле, жоўтае ад іржышча, дзе-нідзе яшчэ дасняваў авёс. Бульба весела зелянела на сваіх загонах. Пройдзе яшчэ некалькі дзён, і тут, дзе нядаўна хадзіў камбайн і дзе жняяркі рэзалі збажыну, пойдуць трактары, заворваючы на зіму апусцелае поле. Я бачыў новыя пабудовы, вясёлыя твары людзей, чароды сытай жывёлы на пашы, і ўспамінаў сваё маленства тут.

У гэтай самай мясцовасці, у гэтым кутку, быў у мяне тады блізкі друг маіх малых год, Сцяпанка. З таго часу прайшло многа год. Мы тады былі малыя. Я памятаю такую самую пару, як і цяпер—быў канец лета. У нашу вёску прышоў чалавек, ён вёў за руку малога хлопчыка.

— Сцяпанка,—сказаў чалавек,—ідзі дзе-небудзь пасядзі ў цяньку, ты стаміўся, а я пайду пагавару з людзьмі.

Сцяпанка паслухмяна сеў на прызбу, а чалавек пайшоў у тую самую хату. Мы, дзеці, падышлі да незнаёмага нам хлопчыка і пачалі гаварыць з ім, распытвацца ў яго— хто ён і адкуль к нам з'явіўся. Вось што нам сказаў Сцяпанка:

— Гэта я прышоў сюды з сваім татам,— пачаў ён расказваць.—У нас няма нідзе свае хаты і няма ў нас зямлі. Нам няма дзе жыць. А мама мая даўно памерла, я сірата. Дагэтуль мой тата служыў у пана парабкам. Ён вельмі многа і цяжка працаваў, а пан вельмі мала яму плаціў, і мы галадалі. Ад цяжкай працы і ад голаду мой тата стаў хворы і ўжо не можа многа і цяжка рабіць. Дык пан нас прагнаў вон.

Нам стала сумна ад хлопчыкавага расказа, мы ўсе паселі на прызбу ўрад, паабапал Сцяпанкі. Праз поўгадзіны Сцяпанка гуляў разам з намі тут-жа па вуліцы. Мы пачаставалі яго хлебам і яблыкамі. Сцяпанкаў бацька хадзіў з хаты ў хату і гаварыў з людзьмі, а мы ўсе гулялі з Сцяпанкам на вуліцы. А падвечар бацька прышоў к Сцяпанку і сказаў яму, што яны астаюцца тут у вёсцы жыць. Мы былі вельмі рады, калі пачулі гэта, бо мы паспелі ўжо здружыцца з Сцяпанкам. Бацька павёў Сцяпанку за руку, а мы

вялікім гуртам ішлі следам. Мы бачылі, што Сцяпанка з бацькам увайшлі ў хату кулака Сымона Бірулі. Так у нашай вёсцы прыбавілася адна сям'я: Сцяпанка з бацькам сталі служыць парабкамі ў Бірулі. Бацька працаваў на бірулевым полі, а Сцяпанка пасвіў бірулевых кароў.

Я вельмі здружыўся з Сцяпанкам. Пасучы коні, я падыходзіў да яго на полі і мы падоўгу былі разам. Мы любілі падоўгу сядзець каля рэчкі, на высокім беразе, пад маладой асінай. Тут была густая трава, цвілі ўсякія кветкі, унізе цвырчэла крынічная вада, а каля крыніцы і на рачным беразе густа рос аер, чарот, мята.

Адзін раз, калі я, як і заўсёды, пасвіў на балоце коні, я ўбачыў, што Сцяпанка вельмі быстра падганяе ка мне бірулевы каровы. Я пайшоў яму насустрач і ўбачыў, што твар яго заплаканы і ён сам нейкі не такі як заўсёды. Калі ён пачаў гаварыць, я пачуў, што ён ад нейкага неспакою заікаецца:

— Што з табой, Сцяпанка?—запытаў я.

— Братачка,—сказаў ён,—я цябе папрашу, каб ты да вечара паглядзеў кароў, няхай яны паходзяць разам з коньмі, а я пабягу ў вёску.

— Чаго?

— Братачка, мой тата памёр.

— Як-жа ён памёр?

— Ён ад панскай службы быў хворы, а рабіць і ў Бірулі яму цяжка прышлося. Ён не вытрымаў. Зранку ён яшчэ вазіў снапы, хоць яму ўжо і дрэнна было. А перад абедам яму стала вельмі кепска, і ён памёр. Я нічога не ведаў, але сам Біруля ехаў нядаўна паўз мяне з поля і сказаў мне. Я пачаў яго прасіць, каб ён дазволіў мне пабегчы дадому развітацца з нежывым татам, а ён не дазволіў. Дык я хачу сам. Братка, паглядзі маіх кароў.

— Бяжы!—адказаў я.

Сцяпанка кінуўся бегчы к вёсцы.

Назаўтра, прыгнаўшы з раніцы жывёлу, мы з Сцяпанкам пайшлі на свежую магілу яго таты. Я назаўсёды запомніў гэтае месца: магіла была пры самай агароджы, непадалёку ад вялікай бярозы. Вецер разгойдваў бярозавае веццё, а мы з Сцяпанкам рукамі выраўнілі магілу і пасадзілі на яе куст белых кветак.

З таго часу я яшчэ больш здружыўся з Сцяпанкам. Абое мы былі падобны адзін да аднаго. Мы былі босыя. Ганяючыся ў полі за жывёлай, мы натыкаліся на карчы і каменне; пальцы на нагах у нас былі пазбіваныя, у струпах. Але самае страшнае гэта было ўставаць да ўсходу сонца і гнаць на пашу жывёлу. Кожны з нас аддаў-бы ўсё самае найлепшае і жаданае за тое, каб хоць поўгадзіны яшчэ паспаць. Так хацелася спаць у гэтыя першыя мінуты надыходзячай раніцы!

Адзін раз Сцяпанка пачаў успамінаць мне пра свайго бацьку:

— Мой бедны тата заўсёды ўсё думаў пра тое, каб мець сваю хату, хоць старэнькую, хоць малую, хоць трухлявую і гнілую, але каб спакойна ў ёй жыць, каб ніхто ніколі нас адтуль не выганяў, каб мы жылі смела. Але тата так і памёр, не прычакаўшы свае хаты.

Мы былі малыя. Прайшло многа год, мы павырасталі, я выехаў жыць у іншае месца.

І вось цяпер зноў у родным кутку, іду і думаю пра мінулае, успамінаю майго прыяцеля Сцяпанку. „Ён ужо вырас,—думаў я,—ён ужо такі самы дарослы чалавек, як і я. Я павінен або ўбачыцца з ім, або, калі ён ужо тут не жыве, дазнацца ад людзей, дзе ён і што з ім“.

Вось знаёмыя чатыры дрэвы. Тады яны былі яшчэ маладымі дрэўцамі, а цяпер пад імі ўжо густы цень. Гэта ўжо тоўстыя дрэвы. Як яны выраслі! Вось хвойны лес, а за імі і вёска, дзе мы з Сцяпанкам жылі малымі. Я завярнуў у лес. Запахла грыбамі. Многа год таму назад я тут з Сцяпанкам збіраў грыбы. Я ўспамінаў, як у гэтую самую пору, у канцы лета, бывала тут многа грыбоў. Ночы ўжо робяцца даўжэй-



шымі, і грыбны запах асабліва адчуваецца пасля ночы. На лясных дарогах, проста над самымі каляінамі, відны сыравежкі, а ўбок у лес, дзе мох, пажаўцелая трава і прэлае лісце,—красуюцца баравікі. Чырвонагаловікі і бабкі хаваюцца ў высокай траве па палянах.

Я ўвесь быў захоплен хараством леса. Быццам маленства маё вярнулася і я зноў перажываю ўсё тое, што калісьці перажываў тут. Ад усяго жудаснага і цяжкага, што было ў маленстве, сціскалася маё сэрца. Ад усяго слаўнага, чым цешылася душа, павявала на мяне спакоем. Навокал мяне спявалі лясныя птушкі. Недалёка той час, калі яны будуць збірацца ў зімовы адлёт. Ціха было і спакойна пад стагоднімі хвоямі. Дзе-нідзе ў хвойніку пракідалася бяроза, часамі траплялася асіна. Дарога вывела мяне на прылесны поплаў, а вось там за ім знаёмыя клёны і, нарэшце, павінен быў быць уезд у знаёмую вуліцу. Я памятаю, што першая ад поплава стаяла маленькая, трохваконная хатка нашага вясковага каваля. Я пайшоў хутчэй.

Зялёная арка ўзвышалася над уездам у вуліцу. За ёй я ўбачыў новы дом на восем акон. Шуфляды і рамы ў вокнах былі пафарбаваны жоўтай фарбай. Перад вокнамі, за нізкай агароджай, цвілі вяргіні. Далей у вуліцы скрозь стаялі падобныя дамкі і новыя хаты. Тых, знаёмых мне старых хат, было ўжо зусім мала.

Я падышоў да першага дому, узышоў на ганак. З глыбіні двара пайшла да мяне дзяўчынка, гадоў ёй на выгляд было дзесяць. За дзяўчынкай ішоў, меншы за яе, хлопчык. „Як-жа мне назваць ім таго даўнейшага Сцяпанку, каб яны пазналі, пра каго пытаю і каб паказалі, дзе ён жыве?—думаў я.— Можа яго называюць тут „дзядзька Сцяпан“, а можа як інакш?“ Але я не паспеў нічога запытаць, а адразу пачаў прыглядацца да хлопчыка, што ішоў следам за дзяўчынкай. Я здзівіўся, гледзячы на яго, а пасля цмяная здагадка з‘явілася ў мяне. Перада мной стаяў якраз той самы Сцяпанка. Я быццам ашаламаніўся, не раздумаўшыся, я ўзяў хлопчыка за плячо і сказаў:

— Добры дзень табе, Сцяпанка.

— Я не Сцяпанка, а Толя!—бойка адказаў мне хлопчык.



Я паглядзеў на дзяўчынку, з твару яна была падобна да Толіка.

— А ты як завешся?

— Я завуся Насця.

— Гэта ты яго сястра?

— Сястра.

— А як завецца ваш тата?

У гэты самы час аднекуль збоку я пачуў тоненькі пявучы галасок:

— Наш тата завецца Сцяпан.

Я глянуў у той бок і ўбачыў зусім малюсенькую дзяўчынку. Яна была поўненькая, кругленькая, чысценькая. Ёй было можа гадоў тры, можа чатыры, не больш. Адразу я яе не заўважыў,—яна стаяла пад кустом вяргіні, уся схаваная ў зеляніне і кветках.

— А як-жа ты сама завешся?

— А я завуся Надзька.

— Гэта наша меншая сястра,—сказала Насця.

— Яна баіцца нашага сабакі, а я яго не баюся,—бойка прагаварыў Толя і падбег да мяне бліжэй.

Я ўжо быў упэўнен, што прышоў на двор да таго майго былога прыяцеля і што гэта яго дзеці. Асабліва ўпэўніваў мяне ў гэтым Толікаў выгляд,—як дзве кроплі вады ён быў падобен да свайго бацькі тады, калі ён быў малы. Быццам той самы Сцяпанка цяпер стаяў перада мной. Толькі што Толя быў у чыстай рубашцы і новых сініх штоніках. Ногі яго не былі ў струпах і нары-

вах, твар яго быў свежы і вясёлы, а не цьмяны і змучаны ад бессані. Валасы яго былі коратка падстрыжаны. Насця была ў сіняй сукенцы з паяском.

— А дзе ваш тата?

— Наш тата цяпер на полі, але ён зараз прыдзе, бо ўжо вечар скора,—праспявала тоненькім галаском Надзька.

— Калі вам трэба ўбачыцца з нашым татам, то вы пачакайце ў нас у хаце,—сказала Насця і адчыніла перада мной дзверы.

— Ты, Насця, вучышся?—запытаў я, увайшоўшы за ёю ў дом.

— Я ўжо ў трэцім класе,—адказала яна.

— А я ўвосень буду ў першым,—не сцярпеў, каб не абазвацца Толя.—А восень ужо скора.

— А я дык буду лётчыцай,—праспявала Надзька.

— А я такі як наш тата буду,—сказаў Толя.—Я калгаснікам буду.

— А ты, Насцечка, кім хочаш быць?

Насцечка падумала і задуменна адказала:

— А я яшчэ не думала пра гэта.

— А лёгка стаць тым, кім хочаш?—запытаў я.

— Трэба вучыцца,—адказала Насцечка.

— А калі каму няма як вучыцца?

— Як гэта няма як?—не зразумела Насцечка.

Я хітра сказаў:

— А калі каму няма дзе жыць, няма чаго есці, калі хто хворы, а трэба цяжка працаваць?

— Дык гэта было тады, калі наш тата быў малы,—сказала Насцечка.—Гэта было тады, калі яшчэ не было рэволюцыі.

— І гэтага ўжо больш ніколі не будзе, Насцечка.

Тут у гаворку ўмяшаўся Толя:

— А Насця раз казала, што яна хоча стаць доктарам. А я дык буду такі, як тата.

— А ты ведаеш, які быў твой тата, калі быў такі малы, як ты?

— Пра гэта нам сам тата расказваў казку,—праспявала Надзька.

— Я вам раскажу,—хутка сказала Надзечка і пачала гаварыць:—Быў хлопчык Сцяпанка, у яго быў хворы тата, а пан і кулак Біруля прымушалі яго цяжка працаваць і не давалі хлеба. У Сцяпанкі з татам не было дзе жыць, яны жылі па чужых людзях, яны не мелі прытулку... хворы Сцяпанкаў тата памёр... А калі ўміраў, то плакаў, што ў Сцяпанкі няма хаты, каб дзе жыць...

— А вы ходзіце на магілу Сцяпанкавага таты?—перабіў я Настачкіну „казку“, якая ў гэтым доме і перад гэтымі дзецьмі гучэла, як сапраўдная далёкая казка, як выдумка.

— На той магіле цвіце купчасты рамонак, блакітныя астрачкі, а півоня ўжо адцвіла. Гэта я сама саджу там кветкі.

— Калі я малы быў, я сам бачыў Сцяпанку малога,—сказаў я.

— А які ён быў?—задуменна ні то запытала, ні то так сказала Насцечка.

У расчыненых дзвярах ужо стаяў Сцяпан, бацька Насцечкі, Толі і Надзькі. Ён неўзаметку ўвайшоў, стаяў і слухаў. Гэта быў ужо „дзядзька Сцяпан“. Яго дзеці стаялі пры мне. Я кінуўся да яго і абняў яго.

Праз гадзіны дзве было ўжо цёмна, мы ўсе сядзелі за сталом і елі смачную вячэру. Пасля дзеці мылі перад сном ногі, клаліся спаць у чыстыя пасцелі. А назаўтра было вельмі яснае і цёплае надвор'е. Дзеці ўсталі позна, вышлі ў большы пакой снедаць, а пасля праводзілі мяне. З самім Сцяпанам я развітаўся ў доме, ён быў заняты ў калгасе, а дзеці пайшлі са мной. Мы ішлі палявой дарогай, пасля вышлі на ўзлесак. З травы і зелля сыпалася спелае насенне, але кветкі яшчэ цвілі. Рамонак і чабор, кмен і дзіванка, павой і дзікая астрачка і многа ўсякіх іншых кветак яшчэ пышна красаваліся. Яны будуць цвісці і ўвосень. А дзікая астрачка, высокая, сцеблаватая, з блакітным венчыкам і жоўтым сэрцайкам, будзе цвісці да самай зімы. Бывае, што без марозу, у самым канцы лістапада, падае першы мокры снег, пасля растане, а блакітная астрачка горда цвіце, напамінаючы аб жывым жыцці і харастве прыроды.

Ідучы поплеч мяне, дзеці рвалі кветкі, а Насцечка віла з іх вянок. Каля лесу я развітаўся з дзецьмі, і яны пайшлі назад, туды, дзе за поплавам відны былі будынкі іх роднага калгаса. Уваходзячы ў лес, я азірнуўся. Тры белавалосыя галоўкі відны былі пасярод зяленіва. Сонца стаяла ўжо высока, усё цвіло і пахла.

Як добра і хораша!




# НА НОВАЕ МЕСЦА

Апавяданне А. ЯКІМОВІЧА

Рысункі І. МІЛЬЧЫНА

I

Сонца ўжо спускалася за лес, калі Вася з таварышамі вышаў са школы.

— Шчаслівай дарогі, Вася!—развіталіся з ім сябры.—Глядзі-ж, прыходзь на Першае Мая.

— Прыду. А як-жа,—адказаў Вася.

Сябры весела пабеглі дамоў, толькі Вася адзін падаўся за калгас у поле. Яго дом далёка за калгасам.

Сёння быў апошні дзень вучобы. Гэта і радавала Васю, і засмучала. Радавала, што ён перайшоў у старэйшы клас. А засмучала Васю тое, што цяпер ён будзе аж да восені жыць адзін, не будзе бачыцца з сваімі сябрамі, не будзе з кім ні пагуляць, ні нават пагаварыць.

Але сёння і яшчэ адна падзея ўсхвалявала Васю. Яго, як лепшага вучня, прымаюць у піонеры. Аб гэтым толькі што гаварылі на піонерскім зборы. Значыць, ён, Вася, будзе піонерам! Будзе насіць яркі чырвоны гальштук, будзе разам з рэбятамі хадзіць у атрад, запішацца ў авіямадэльны гурток. Вася даўно ўпотай марыць аб гэтым.

За калгаснымі будынкамі раскінулася шырокая, як мора, раўніна. Тут расла ярына: ячмені, авёс, лён. Над палямі заліваліся песнямі жаўранкі. Іх галасы звінелі, нібы тоненькія срэбныя званочкі. Усё навокал было заліта цёплым вясновым сонцам, усюды было радасна і весела.

Вася ішоў, напяваючы сам сабе майскую песеньку, якую яны развучвалі сёння ў школе. Гэтую песеньку яны будуць спяваць на першамайскім вечары, на тым вечары, на якім яго, Васю, будуць урачыста прымаць у новую для яго сям'ю піонераў.

З такім настроем Вася ўвайшоў у лес. Лес быў густы, цёмны ад зелені. Цяпер у лесе раздолле, і Васю весела ісці лясной дарогаю. На розныя лады тут шчабяталі і спявалі птушкі, снуючы каля сваіх гнёздаў. Па галінках скакалі шустрыя рознахвостыя белачкі. Стракатыя дзятлы, упершыся хвастамі ў кару, займаліся сваёй плотніцкай справай.

Вася ўспомніў лес зімою. Непрыемныя ўспаміны! Нямала нацярпеўся ён тут і страху, і холаду, і ўсяго. Ідзеш, бывала, у завею, снег да калена займае, навокал ні жывой душы, зморышся, з сіл выб'ешся, а дом яшчэ далёка. Не раз праклінаў Вася і гэты лес, і мароз, і свой дом, які чамусьці закінуты ў такую глуш, далёка ад жывых людзей. А колькі разоў у непагадзь ён прапускаў заняткі...

Неўзабаве перад Васем вырасла невялічкая палянка з будынкамі. Гэта і быў яго дом—хутар, куды Вася заўсёды ішоў неахвотна. Вельмі-ж тут спакойна і нудна пасля школы і калгаса.

На двары Вася сустрэў сваю бабку Аксеню, акружаную курамі. Яна трэсла брудныя лахманы, з якіх градам сыпаліся прусакі. Куры жвава накідваліся на сваю здабычу,

кожная спяшалася захапіць сабе большую долю.

— Дасць бацька,—сказала бабка, убачыўшы Васю.—Гэта-ж думаць—адвячорак, а яго няма!

— Вы зноў прусакоў разводзіце,—сярдзіта адказаў Вася.

— Не табе вучыць мяне. Ідзі, вунь бацька цябе з папругаю чакае.

Вася даўно ваюе з бабкаю з-за гэтых прусакоў. Проста жыцця няма ад іх! Кожны дзень у Васі лоб пагрызены імі. Хоць ты ў хату не заходзь!

Бацька быў дома. У гэты дзень ён займаўся хатнімі справамі. Цяпер ён сядзеў каля маленькага акенца і стругаў зубы для грабель.

— Дзе ты быў так позна?—запытаўся бацька.

Вася хацеў расказаць бацьку, дзе ён быў, хацеў падзяліцца з ім сваёй радасцю, але ці-ж зразумее ён Васю. Бацька мала цікавіцца яго вучобай і яго жыццём. Як толькі прыдзе Вася са школы—зараз знойдзецца яму работа. А ўрокі вучыць ніколі часу няма.



Вася ўспомніў сваіх сяброў з калгаса. Не такое ў іх жыццё. Ні кароў, ні свіней ім пасвіць не трэба—на гэта ёсць пастух. Яны могуць вучыцца, чытаць цікавыя кніжкі, могуць гуляць у вольны час. І нават бацькі ў іх, здаецца, не такія панурыя. Ды і сам Вася мяняецца, як прыходзіць дамоў. Уся яго весялосць, прыгожыя мары знікаюць тут на гэтым маўклівым хутары.

— Дзе мама?—запытаўся Вася.

— Карову пасе за цябе,—буркнуў бацька.—Ідзі падмяні яе.

Вася ўзяў са стала кавалак хлеба і сумны падаўся з хаты.

— Скора гуляць будзеш,—лагадней сказаў бацька.—Да пастуха пойдзе...

Вася спыніўся, недаўменна глянуў на бацьку. Што-б гэта значыла? Усе апошнія дні дома гаварылі аб перасяленні ў калгас. Бацька ўсё не адважваўся перасяляцца. Ён прывык жыць на адзіноце, адзічэў тут у гэтай мядзвежай бярлозе. Маці і Вася цвёрда стаяць за перасяленне. Але бацьку памагае яшчэ бабка Аксеня. Вядома, бацькава слова ў такой справе мела немалую вагу.

— Тата,—сказаў усхваляваны такою навіною Вася,—гэта праўда?

— Калі кажу, дык праўда,—адказаў бацька.

Як чакаў Вася гэтага часу! Перасяліцца ў калгас, дзе школа, сябры, клуб, кааператыў, дзе, нарэшце, людзі, жывыя людзі замест дрэў! І вось цяпер гэты час прышоў. Бацька сказаў не так сабе. Значыць, ён пераканаўся, што так лепш будзе.

— Ну, ідзі, няхай маці збіраецца патроху. Адкладваць надоўга не будзем.

Вася больш не распытваўся, кулём выскачыў з хаты. Набягу ён задорна крыкнуў бабцы:

— Бабка, у калгас перасяляемся! Толькі ніводнага вашага прусака туды не возьмем...

І пабег, пакінуўшы здзіўленую бабку з лахманом у руках.

## II

Праз два дні раніцай на хутар з'ехаўся ўвесь калгас. Вазамі заставілі дарогу, двор, агарод. Ніколі яшчэ хутар не бачыў у сябе столькі гасцей.

Між гасцей быў і старшыня калгаса дзядзька Язэп. Ён аглядзеў хутарскія будынкі, паматаў галавою і сказаў спаважна:

— На добры лад, і брацьбы не варта. Адна трухляціна асталася. Няважна ты жыў тут, Аляксей.

— От, жылося,—адказаў Аляксей, бацька Васі.

— Ну, ды спатрэбіцца на што іншае. А табе, брат, прыдзецца паставіць новую хату. Не псаваць-жа калгас такою будоваю.

— Адкуль-жа мне паставіць новую хату, таварыш старшыня. Я не магу паставіць новую,—адказаў Аляксей.

— Ты не можаш, а калгас можа. Бачыш, сіла якая,—паказаў Язэп на падводы.—Раз ты ў калгасе, дык і павінен жыць як калгаснік—заможна, культурна і весела.

— Параска, чуеш?—адвярнуўся Аляксей да жонкі.—Калгас нам новую хату паставіць!

Параска ўсё чула і ад радасці не ведала, што і сказаць. Сам Аляксей стаяў як заварожаны такою навіною.

ўсё гэта за год—колькі працадзён тваіх дарма прападае. Ды куды ні кінь—прамая выгада жыць у калгасе разам з людзьмі. Там, брат, табе школа пад бокам, каапэратыў пад бокам, работа тут-жа на месцы, карову і свінню самому пасвіць не трэба. Колькі гэта выгад табе, чалавеча, адкрываецца. Праўда, Вася?



Калгаснікі тым часам павыносілі з хаты ўсе гаспадаровы пажыткі, паклалі іх на падводы. Потым сарвалі з будынкаў стрэхі і сталі разбіраць хату, хлеў і гумно.

Васю таксама было нямала работы: ён дапамагаў бабцы лавіць і вязаць курэй, усім цікавіўся.

Хутка на месцы хаты тырчала толькі печ ды валялася салома і рознае непатрэбнае ламачча.

— Ну, брат, Аляксей, паедзем на новае месца, у новае жыццё,—сказаў Язэп.—Майскае свята будзеш разам з намі праўляць. Хопіць табе тут воўкам жыць. Вунь сын у цябе расце,—паказаў ён на Васю, які стаяў тут блізка,—яму вучыцца трэба, гуляць з дзецьмі трэба, а не хадзіць такую далячынь у школу і траціць дарэмна і час і сілу. Ды і сам ты нямала траціш часу на пераходы на работу ў калгас. Збяры

Вася слухаў гэтыя словы, як прыгожую музыку і, каб не сароміўся, гатоў-бы кінуцца і тут-жа пры ўсіх расцалаваць дзядзьку Язэпа.

— Ну, што-ж, памінкаў спраўляць не будзем, а наваселле то ўжо справім,—усміхаючыся гаварыў дзядзька Язэп.—Як думаеш, Параска?

— Ды ўжо-ж,—адказала маці,—хіба-ж мы не людзі. Я сама рада гэтаму. Толькі, як той кажа, прывычка тая. Гэтулькі год пражыла тут.

— А на новым месцы яшчэ больш пражывеш, там і паміраць не захочаш. Успомніш маё слова. Ну, паганяй, ці што.

Неўзабаве хутарская сям'я выехала з лесу. Перад ёй весела зелянелі неабдымныя калгасныя палі. Здалёку на ўзгорку красаваліся новыя калгасныя хаты, асветленыя яркім вясновым сонцам.



# Уладарства пана Міхайлы

(Урыўкі з дзіцячай паэмы)

З. БЯДУЛЯ

Рысункі ГЕДДЫ

1

Жыў мядзведзь у бары,
У зялёным бары,
Усе білі паклоны
Яму аднаму.
Трапятала жывёла,
Дрыжэлі звяры,
І даніну пушнінай
Плацілі яму.

Пан Міхайла Мядзведзь
Летам ладзіў піры
І з вяльможнай сям'ёй
На гулянкі хадзіў.
У маёнтку сваім
У зялёным бары
Дзень у дзень пан Міхайла
Падданых судзіў.

І курэй, і гусей,
І цялят, і ягнят
Пан Міхайла судзіў—
Баравы гаспадар.
Люты воўк на судзе
Пры ім—следчы і кат,
І пявун—адвакат,
Ліс—хітрун—сакратар.

Кожны дзень перад ім
Рыжы ліс верць і круць:
„Можа шапку падаць?
Можа люльку падаць?
А як пані жыве?
Як паненкі жывуць?
Мо' сабачак прынесці
Малым пагуляць?"

Ліс з натхненнем хваліў
Сваіх грозных паноў,
Вечна лапы лізаў
Ім хітрун-баламут.
Часта меў на канюшні
Па сто бізуноў,
І душыў ён курэй
І маліўся на кут.

А зіму ўсю Міхайла
Пад коўдрамі спаў.
Яго чэлядзь з Мядзведзка
Знікла тады.
Паляўнічы там быў,
Да зямлі прыпадаў,
Нюхаў, чухаў і мацаў
Па снезе сляды.

За Мурашкай Палашкай
Ліс пільна сачыў,
З муравейніка кпіў
І смяяўся да слёз,
Як мядзведзю схлусіць
Меркаваў уначы.
Ёсць навін поўны кош,
Ёсць навін поўны воз.



# Як Мурашок Панас бубніў Лісу ў вуха

2

Ліса рыжага угледзеў
Аднойчы Панас—
Мурашок-пстрыкачок,
Свістунок-хлапчанё.
„Чаго ходзіш, крадзешся
Употай да нас,
А глядзіш так нявінна,
Глядзіш, бы ягнё?“

„Што так вушы наставіў
На нашу мяжу
І хвастом замятаеш,
Як злодзей, сляды?
Я татулю скажу,
Я матулі скажу!“
Рыжы ліс—шах і мах,
Лататы ад бяды.

А Панаска ўздагон.
І дагнаў—і на хвост,
А з хваста—на спіну.
Лісу ў вуха залез.
„Тур-тур-тур-р-р! Тар-тар-тар-р-р!“
Ліс ступае на мост.

Ліс па мосце ды ў лес.
„Барабаняць, ці што?
Ліс трасе галавой.
„Гэта ты, мурашок?
Вымятайся, свістун!“

А Панас—хоць-бы што!—
„Тра-рай-рай! Тро-рой-рой!“
Ліс злуецца, крычыць:
„Ну, вылазь ты, пстрыкун!“

Ліс у рэчку плюх-плях
І плыве па вадзе.
Раз ці два даў нырца,
Вышаў з рэчкі, пабег.
А Панаска малы
У вялікай бядзе.
Страціў радасць жыцця,
Страціў гумар і смех.

Яго хваля нясе,
Яго хваля імчыць.
Ці-ж малы прападзе?
Ці-ж утопіцца ён?
„Ой, па горла вада!
Ой, ратуйце!“—крычыць.
Ажно чуе: „Гро-гро!
Гро-гро-гро!“—нібы звон.

Гэта качка плыла.
Скок Панас на крыло,
А з крыла на спіну
І паплыў на спіне.
Стала лёгка яму,
Ад душы адлягло.



# Чароўны пярсцёнак

*Казка В. ВОЛЬСКАГА* — *Рысункі А. ШАХРАЯ*

Жыў сабе некалі адзін бедны хлопец. Не было ў яго ні бацькі, ні маці, ні сваякоў, ні блізкіх. Служыў гэты хлопец у аднаго багатага гаспадара і, адслужыўшы ў яго тры гады, зарабіў тры чырвонцы. Па чырвонцу за год.

Узяў ён гэтыя грошы, развітаўся з гаспадаром, пераначаваў у хлеве, дый пайшоў сабе па дарозе, куды вочы глядзяць.

Была прыгожая раніца. У сінім, высокім небе ясна свяціла сонейка. Паабапал дарогі, у густой зеляніне дрэў, весела спявалі птушкі.

Радасна было на сэрцы ў парабчука. Быў ён хаця і бедны, але затое вольны.

— Ёсць у мяне здаровыя рукі,—думаў ён,— з імі я ніколі не прападу.

Ідзе парабчук па дарозе, а насустрач яму бягуць нейкія хлапчукі. Нясуць коціка тапіць.

— Куды гэта вы яго несяцё?—запытаўся парабчук.

— Тапіць,—адказалі хлапчукі.

— Навошта вы гэтак робіце?—ізноў пытаецца парабчук.

— Калі-ж вельмі ён шкадлівы,—адказалі хлапчукі,—да масла ды смятаны ўнадзіўся, а мышэй лавіць не хоча.

Пашкадаваў парабчук коціка.

Пачаў ён хлапчукоў прасіць:

— Не тапіце яго, я вам за гэта грошы дам.

— Добра,—кажуць яны,—калі ты нам грошы заплоціш, мы яго тапіць не будзем.

Даў ім парабчук чырвонца, каб яны ката пусцілі. Узялі хлапчукі тыя грошы, пасмяяліся з яго дабраты і пабеглі, а кот замурлыкаў і пайшоў, хвост узняўшы, за парабчуком.

Ідзе парабчук далей і песні спявае, а насустрач яму нейкі чалавек сабаку на вяроўцы цягне, і такі сабака худы, жаласны, галодны.

— Куды гэта, чалавеча, сабаку цягнеш?—пытаецца парабчук.

— Да скуралупа вяду,—адказвае прахожы.— Нікуды гэты пёс не варты, ні на што, падла, не здатны. Можа, скуру прадаўшы, хоць зараблю на ім трохі.

Пашкадаваў парабчук сабаку і даў прахожаму чырвонца, каб той сабаку не губіў. Здзівіўся прахожы, але ўзяў тыя грошы і пайшоў сабе да хаты, а сабака, хвастом павіляўшы, пабег за парабчуком.

Ідзе парабчук далей, аж бачыць, сядзяць на ўзгорку, каля вогнішча, на беразе рэчкі, пастушкі. Злавілі яны вужа ды цяпер яго на вуголлях паліць збіраюцца.

— Навошта вы яго паліць хочаце?—запытаўся парабчук.

— Калі-ж надта ён брыдкі,—адказалі пастушкі.

Пашкадаваў парабчук вужа і даў пастушкам апошні чырвонец, каб яны вужа не палілі. Узялі пастушкі тыя грошы і кінулі вужа ў траву, а ён падпоўз да парабчука і гаворыць:

— Дзякую табе, хлопча, што вызваліў ты мяне з ліхой бяды. Ісці з табой я не магу, але дам табе за тое падарунак. Пачакай хвілінку.

Сказаў гэта вуж і знік у траве, нібы скрозь зямлю праваліўся. Пачакаў трохі парабчук і хацеў ужо ісці далей, аж у гэтую хвіліну і з'явіўся вуж. Узняўся ён з травы і дае парабчуку залаты пярсцёнак.

— Пярсцёнак гэты,—кажа,—незвычайны. Варта табе толькі пажадаць чаго-небудзь ды пакруціць яго вакол пальца, дык адразу ўсё і будзе, як ты захочаш. Вазьмі яго сабе.

Сказаў гэта вуж парабчуку, даў яму пярсцёнак і—плюх! у рэчку. Не паспеў парабчук нават і падзякаваць.

Уздзеў ён гэты пярсцёнак сабе на палец дый пайшоў далей з сваімі сябрамі—катом і сабакай.

Ідуць яны дзень, ідуць другі, ідуць трэці. І прыйшлі, нарэшце, у нейкае каралеўства. А ў тым каралеўстве вялікі смутак. З'явіўся аднекуль з-за лесу вялізны змей з дванаццацю галовамі, схапіў каралеўскую дачку, калі яна ў садзе гуляла, дый панёс з сабою. Трымае гэты змей каралеўну за лесам непраходным, дрымучым, сярод сіняга мора, на заклятым востраве. Шкадуюць усе каралеўну, але нічым дапамагчы не могуць.

Увайшоў парабчук у горад, дзе жыў стары кароль, і спыніўся на пляцы. А на тым пляцы народ сабраўся, каралеўскае абвяшчэнне слухае.

Стаіць пасярод пляцу каралеўскі салдат з чорнымі вусамі і б'е ў вялізны барабан:

— Бум!.. бум!.. бум!..

А побач з ім прыдворны пісар у аксамітным адзенні ўсім каралеўскі загад абвяшчае:

— Калі знойдзецца адважны чалавек, усёроўна якога стану, што злога змея заб'е і каралеўну з палону вызваліць, дык кароль таму чалавеку сваю дачку за жонку аддасць.

Пачуўшы такое абвяшчэнне, глянуў парабчук на свой пярсцёнак і пайшоў у каралеўскі палац прасіць, каб яго да караля пусцілі.

Не пускаюць яго вартавыя каля дзвярэй, лаюцца, штурхаюць.

Пачуў гэта кароль і выйшаў на ганак.

— У чым справа?—пытаецца,—што гэта за шум такі пад маімі вокнамі?

Праціснуўся тады парабчук да караля:

— Дзень добры, пане кароль!

— Чаго табе трэба, хлопча?—пытаецца кароль.

— Прашу я, пане кароль, каб дазволіў ты мне злога змея забіць і тваю каралеўскую дачку з палону вызваліць.

— Эх, братка,—сказаў стары кароль, уздыхнуўшы.—Не за сваю справу бярэшся. Дзе табе супроць змея змагацца. Не мала адважных рыцараў, мацнейшых ды разумнейшых за цябе, загубілі свае галовы ў лютай бойцы. Ніхто з іх назад не вярнуўся. Будзе і з табой тое самае.

Але парабчук стаяў на сваім моцна:

— Дазволь, пане кароль, забіць змея!—дый годзе.



— Ну,—сказаў кароль,—калі ўжо табе гэтак жыццё надакучыла, дык ідзі, братка. Дазваляю. Здолееш сюды з каралеўнай вярнуцца,—тваё шчасце,—возьмеш за жонку. Маё слова цвёрдае.

Павярнуўся кароль і пайшоў у свае пакоі, а парабчук застаўся каля ганку.

Пачалі тут вартавыя з парабчука смяяцца, а ён, адышоўшы крыху ў бок, каб людзі не бачылі, пакруціў пярсцёнак вакол пальца і пажадаў, каб былі ў яго конь добры, меч востры ды вопратка стальная. І адразу з'явілася ўсё гэта перад ім нібы з-пад зямлі. Убабраўся ён у тую вопратку стальную, прыпаясаў меч востры да боку, сеў на добрага каня дый паехаў у лес дрымучы, туды, дзе жыў змей з дванаццацю галовамі. А кот і сабака за ім следам ідуць.

Аднак лес быў не так ужо блізка, як гэта яму спачатку здалося. Надышоў вечар. Сонейка ўжо зайшло, калі яны апынуліся на ўскраі таго вялікага лесу. Быў ён густы, цёмны, дрымучы. Цяжка было прабірацца на кані скрозь гушчар вялізных стогадовых дрэў ды калючага хмызняку, але парабчук смела ехаў наперад, а кот і сабака не адставалі ад яго.

Неўзабаве выбраліся яны на невялічкую палянку і рашылі тут адпачыць ды набрацца сіл для сустрэчы са змеем.

Раптам загуло нешта ў паветры. Міма падарожнікаў пранёсся спалоханы алень, а за ім выскачылі з гушчару і зніклі ў бліжэйшых кустах некалькі зайцаў.

Вылецеў аднекуль філін і закрычаў страшным галасам:

— Угу!.. угу!..



Узняўся страшэнны віхор. Навакол загрымела, нібы гром.

Гэта набліжаўся змей.

З жудасным скавытаннем апусціўся ён на палянцы перад парабчуком, захлопаў сваімі вялізнымі, сухімі, як у кажана, крыллямі і сказаў:

— Ого! Хто гэта асмеліўся з'явіцца ў маіх валоданнях? Будзе ў мяне сёння добрая закуска на вячэру!

— Гэта мы яшчэ пабачым!—адказаў парабчук, прышпорыў каня, выхапіў меч, наляцеў на змея і давай яму галовы ссякаць, а кот і сабака ззаду падбеглі і змея за хвост кусаюць.

Паадсек яму парабчук усе дванаццаць галоў, пераначаваў на палянцы, даў адпачыць каню, накарміў ката і сабаку і раніцай выехаў на бераг мора.

Далёка раскінуўся перад ім бязмежны вадзяны прастор. Няма яму ні канца, ні краю. А пасярод таго сіняга мора на заклятым востраве сядзіць каралеўская дачка адна на камені ды плача.

Глянуў тады парабчук на свой пярсцёнак, пакруціў яго вакол пальца і пажадаў, каб быў мост на той востраў. Ледзь толькі ён гэтак падумаў, як з'явіўся аднекуль мост, ды не просты, а залаты, і злучыў востраў з зямлёю.

Паехаў парабчук па таму мосту на востраў, а каралеўна яму насустрач бяжыць, смяецца. Сышоў ён з свайго каня, пакланіўся каралеўне і сказаў:

— Дзень добры, каралеўна! Сядайце ў карэту, паедзем да бацькі-караля.

Здзівілася каралеўна:

— Дзе-ж твая карэта?

Паглядзеў парабчук на свой пярсцёнак, пакруціў яго вакол пальца і пажадаў, каб была залатая карэта з шасцёркаю коней. Ледзь толькі ён гэта падумаў, як з'явілася перад імі залатая карэта, а ў тую карэту шасцёрка коней запрэжана.

— Калі ласка!—гаворыць парабчук.—Сядайце, паненка!

Села каралеўна ў карэту і паехала, а парабчук на сваім кані побач едзе, а кот і сабака за ім следам бягуць.

Пад'ехалі яны пад самыя вокны каралеўскага палацу. Кароль як убачыў праз акно сваю дачку ў залатой карэце, адразу на ганак выскачыў, узрадаваўся вельмі небарака. А каралеўна стаіць нездаволеная. Агледзелася, што гэта просты хлопец яе вызваліў, а не рыцар, дый засумавала. Вельмі-ж была ганарлівая. Парабчуку нават і не дзякуе, глядзець на яго не хоча. А кароль вакол іх завіхаецца, нацешыцца не можа, загадзя вяселле рыхтуе.

Аддаў кароль сваю дачку парабчуку за жонку, у яе нават і не спытаўся. Вяселле ім справіў на славу.

*(Працяг у наступным нумары.)*




Алесь ЖАЎРУК і Андрэй УШАКОЎ

Рысункі ГЕДДЫ

Казка гэтая пра муху,
Усім вядомую Буркуху.
Многа дзе яна лятала,
Шмат куткоў утульных знала,
Але больш усіх мясцін
Быў ёй любы кут адзін.
Там не мучыла трывога
За жыццё яе штодня—
Бруду многа,
Ежы многа—
Бясклапотнасць, цішыня!
Там жыла адна дзяўчынка,
Вечна брудная, як свінка,—
Есці ёй паставіць маці,
А дзяўчынка разалье,
У кісель залепіць пальцы,
Суп развозіць па стале,
Вымажа варэннем кніжку,
На падлогу скіне лыжку,
Нос накорміць,
                    па шчаках
Паразмажа—глянуць страх!
І заўсёды да Гразнухі
Цэлым роем ліпнуць мухі;
Абступіўшы міску цесна,
З ёй ядуць яны сумесна.
А гуляць яна ідзе—
Дваццаць мух над ёй гудзе.
Цэлы дзень лятаюць следам—
Чуюць мухі мёду пах,
І садзяцца, каб паснедаць
На губах
І на шчаках.
І Буркуха з ёю ела,
Вечна клопатаў не мела,
А пад'еўшы, кожным ранкам
Вылятала на гулянку.



Вось ляціць яна к сяброўкам
Там жылі ў другім двары
Мухі, божыя кароўкі,
Павукі і камары.



Прыляцела к ім, а мухі
Убіваюцца ад скрухі:
Трэці тыдзень не пускаюць
Іх у дом гаспадары,
Трэці тыдзень галадаюць
Павукі і камары.
Ім жыцця няма нікому
Ад вакольнай чыстаты.
Надыйшлі часы ліхія—
Хоць кідай знаёмы двор.
Сталі мухі ўсе худыя—
Ледзь лятаюць,
Ледзь жывыя,—
Надыйшоў мушыны мор.
Сталі скардзіцца тут мухі:
— Хоць лажыся памірай!
— А ў мяне, — пішчыць Буркуха, —
У дзяўчынкі у Гразнухі
Не жыццё, а проста рай!
Раптам, быццам-бы з засады,
З-за парэчкавых кустоў
Ўніз пасыпалася градам
Стая прыткіх вераб'ёў.
Мухі ўсе аслупянелі,
Вераб'і іх тут-жа з'елі,
Толькі наша муха—ў бок
Ды што сілы наўцёк.
З жаху ўся яна спацела,
Пяць завулкаў праляцела
І тады хутчэй цішком
Праз акно—у нечый дом.
Бачыць муха: ў цяжкім горы
Цёця нейкая сядзіць,
А у ложку хлопчык хворы
Ў непрытомнасці ляжыць;
Погляд мутны і пануры—
У яго тэмпература,
Ад яго гарачыня,
Як у печы ад агня.
Муха бліжэй падляцела,
Хлапчуку на губы села,
Па шчаках перапаўзла
Ды адразу—да стала.
Вось прыволле дзе для мухі,
Спрытнай збродлівай Буркухі!
Можна есці,
Можна піць—
Нечапана ўсё стаіць.
Спрабаваўшы сёе-тое—
Суп, кісель, сухарык, чай—
Муха бачыць: што такое
Там у шкляначчы—чакай!






І к лякарству ўжо ляціць,
Падпаўзла і стала піць.
Як хлябнула—дрэнна стала—
На нагах ледзь устаяла:
— Як-жа гэта піць малому?—
Вельмі горкае-ж віно!—
І хутчэй к сабе дадому
Паляцела праз акно.
Ледзь жывой Буркуха-муха
Даляцела да Гразнухі,
Да сяброўкі да старой,
І хутчэй на губы к ёй.
Тут яна лякарства горач
Смачным мёдам запіла.



А праз дзень дзяўчынка хворай
Ў непрытомнасці злягла.
Погляд мутны і пахмуры—
У яе тэмпература,
Ад яе гарачыня,
Як у печы ад агня.
Плача мама,
Плача тата:
— Хто ў хваробе вінаваты?
Што далей, то не лягчэй,
Трэба доктара хутчэй.
Так дзяўчынка прахварэла
Цэлы тыдзень, як злягла,—
Ад спякоты ўся гарэла,
А ні ела, ні піла.
Дзеці ўсе ідуць купацца—
Ёй прыходзіцца астацца;
Дзеці ўсе ідуць у кіно,
А яна глядзіць ў акно.
Дзецям—яблыкі і вішні,
Ёй-жа зноў—мікстуры вышлі;
Дзецям—з макам піражкі,
А Гразнухе—парашкі.




Толькі зараз вы дзяўчынку
Не пазнаеце, сябры:
Ходзіць чыстай, як карцінка,
Разам з дзецьмі па двары.
Пыл сцірае у пакоі,
Мые рукі прад ядою,
Мые ногі перад сном,
Чысціць зубы парашком.
А для мух ў былой сяброўкі
Пачастункаў поўна зноўку,
Толькі іншых—бачыш ты:
Мухаморы,
Мухалоўкі
І ліпучыя лісты.



# Ягадная пара



*Апавяданне В. ЗМІТРЭНКІ*

Даспелі ў боры суніцы. На зялёных дыванах ягадніку высыпалі яны яркачырвоныя, пахучыя, павіслі пад лісточкамі буйнымі сакаўнымі кроплямі.

Як абсушыць сонца расу,—спявае ды гамоніць звонкі сасоннік, і шматгалосае рэха лятае на лёгкіх крыллях па бары аж да самага вечара. Ягадная пара—вясёлая пара.

Косця і Алёша вярталіся дамоў у поўдзень. Размахваючы амаль пустымі гладышамі, яны крочылі па спавітай сухімі карэннямі дарозе, што вілася ў густым хвойніку. Гутарка і гэтым разам гатова была спыніцца. Пытанне, якое сябры трымалі ў сакрэце ад усіх, і цяпер застанецца невырашаным.

— Навошта думаць многа?—сказаў, нарэшце, Косця.—Мы будзем пагранічнікамі і геолагамі разам. Вось і ўсё.

— Гэта добра было-б, але...

— Хіба нельга?

— Не ведаю, мусіць, нельга,—адказаў Алёша. Шкада стала хлопцам, што нельга быць адначасова пагранічнікам і геолагам.

— Прыедзе дзядзька Міхал—у яго спытаем,—знайшоў выхад Косця.

— Праўда,—ажывіўся сябра, але зараз-жа спахмурнеў.—Толькі баюся я: дзядзька твой геолаг, дык скажа, што лепш геолагам.

— Не, ён чалавек вучоны, правільна скажа.

Алёша згадзіўся.

— Давай есці ягады, калі так,—прапанаваў ён.

Насыпаўшы ў руку прымятых даспелых суніц, Алёша закінуў ужо галаву, як нечакана ззаду нехта праказаў:

— Ну, як, хлопцы, многа назбіралі?

Сябры азірнуліся. За імі спяшаўся чалавек у рабай шапцы і ў рагавых акулярах. Твар у чалавека загарэлы, запылены, у руках—скураны чамадан.

— Многа,—прамовіў Алёша,—ды з'елі.

— Малайцы,—і калі чалавек усміхнуўся, у яго роце бліснуў залаты зуб.

— А вы адкуль, дзядзя? — асмеліўся Косця.

— Са станцыі іду я,—незнаёмы абмінуў хлопцаў і, азірнуўшыся, кіўнуў галавой.

— Гэтай дарогай я зайду ў Рудню?

— Ага,—адказалі хлопцы і здзівіліся: чалавек назваў іхнюю вёску.

— Дзякую, хлопцы...

Косця і Алёша пайшлі павольней. Калі чалавек у рабай шапцы знік за дрэвамі, яны спыніліся.

— Здагадаўся?—бліснуў вачыма Алёша.

— Здагадаўся.

Аглядаючыся, чалавек сышоў з дарогі.

— У вёску...

Косця моўчкі пабег за ім.

Бор скончыўся хутка. Незнаёмага чала-

века яны ўбачылі ў жыце. Шапка яго ныррала ў шызых хвалях каласоў.

Ён ішоў дарогаю ў Рудню.

Хлопцы пабеглі ў вёску другім шляхам—сцежкаю.

Першым, каго сустрэлі Косця і Алёша, быў дзед Архіп. Ён сядзеў у рэчцы па грудзі ў вадзе і, пырхаючы, мыўся. Хлопцы з усіх ног кінуліся да яго.

— Дзед, вылазь!—Алёша з разгону сам па калені ўскочыў у ваду.

— Адкуль вас нясе?—буркнуў дзед Архіп і, прысядаючы, падымаў цэлыя снапы срабрыстых брызгаў.

— Вылазь, дзед! Шпіён.

— Што?

— Шпіён!

— У жыце,—дабавілі хлопцы.

— Ого,—толькі прамовіў дзед і, высока падымаючы босыя, худыя ногі, выскачыў на бераг.

— У жыце, кажаце?

— Ага, сюды ідзе.

— У рабай шапцы і ў акулярах,—стараліся хлопцы.

— І зуб залаты...

Дзед моргаў вачыма, з мокрай галавы і з барады цуркамі збягала вада. Ён схапіў сваю адзежыну, але папасці нагою ў калашыну ніяк не мог. Стары скакаў па берагу, соваў то адну, то другую нагу і злосна трос мокраю галавою.

— Дзеду, ды гэта-ж кашуля!—крыкнулі хлопцы.—А-я-яй...

Дзед Архіп, хутка сапучы, выпраміўся—у руках сапраўды была кашуля а не штаны.

— Цьфу, нячысцік, цьфу,—плюнуў ён два разы падрад і кінуў кашулю на корч.

Хлопцы мігам паднеслі яму штаны. Дзед нацягнуў іх, выламіў з куста палку.

— Дзе ён? Вядзіце.

Чалавека ў рабай шапцы сустрэлі, калі, ён выходзіў з жыта.

— Прыкурыць, гэтае самае, грамадзянін,—дзед вынуў з кішэні сваю люльку.

— Здаецца, ёсць,—спыніўся незнаёмы і паставіў на зямлю чамадан.

Даючы запалкі голаму да пояса дзеду, чалавек запытаў:

— А чаго гэта вы ў такім выглядзе?

— Купаўся, значыць я. Гляджу, а коні там за жытам капусту, гэтае самае. Я выскачыў, схапіў палку, і бягом туды. Ах, воўчае мяса, качаноў дваццаць сапсавалі,—лаяў дзед коней і хітра сачыў за незнаёмым.—А вы куды, значыць?

— Ты што, дзед Архіп, не пазнаеш мяне?

Дзед Архіп ад здзіўлення аж прысеў і хуценька заморгаў вачыма.

— Дык гэта ты—Міхал—гіёлаг,—працягнуў стары абедзве рукі аднавяскоўцу.—Колькі мы з табою рыбы пералавілі! Помніш?

— Помню, помню, дзядок,—засвяціўся ў роце геолага залаты зуб.—Я цябе дык ледзь пазнаў. Ха-ха-ха!..

Дзед ажывіўся, усміхнуўся, але, выпадкова зірнуўшы на хлопцаў, спахмурнеў:

— Ідзі, Кастусь, цалуй дзядзьку. Прабачэння папрасіце, жэўжыкі. Сустрэлі называецца.

Косця проста ўляцеў к дзядзьку ў рукі. Хутка ўсе ўзрадаваныя ішлі ў вёску. Дзядзька Міхал часта папраўляў пальцамі акуляры і ўсміхаўся.

Дзед Архіп абганяў з голых плеч аваднёў і называў Косцю і Алёшу жэўжыкамі.

* * *

Увечары хлопцы сядзелі з дзядзькам Міхалам у садзе. Дзядзька расказваў пра Далёкі Усход, пра свае геалагічныя экспедыцыі.

За борам у малінавых шкляных хмарах дагарала сонца. Пацягнула халадком. Падала раса.

— Дзядзя, а скажыце,—нясмела пачаў Косця.—Геолагам і пагранічнікам адначасова можна быць?

Дзядзька пахлопаў абодвух па плячы.

— Вядома, можна. У нашай краіне яно так і ёсць: геолаг і пагранічнік, калгаснік і пагранічнік, настаўнік і пагранічнік, вучань і пагранічнік.

Хлопцы пераглянуліся.

— Яно так і ёсць.

І ўсе трое звонка засмяяліся.

Плыў цёплы ліпнёвы вечар і дымчатай сінявою ахутваў зямлю. У мяккім небе, нібы спелыя суніцы, высыпалі зоры.

# ЗАГАДКАВЫЯ МАЛЮНКІ

ЦАНА 30 к.



Куды падзеліся сабакі?



Дзе паляўнічы?



## ПЛАКСА

*Рысунак-жарт Л. Смехава.*

— Перастань ты плакаць, Дзіма. Усё кончана. Зіна і то ўжо чвэрць гадзіны, як перастала плакаць.

— Зі...Зі... Зіна пачала раней мяне... У-уву-ву!..

## ШАРАДА

Аб'яднанне двух нот  
Вядзе марской меры шчот.

### Хітрае пытанне

— Чаму певень спявае зажмурыўшы вочы?  
— Хоча паказаць, што спявае напамяць.

### Цікава ведаць

Самы доўгі хвост у пеўня Фенікса. Калі Фенікс сядзе на макушку трохметравага дрэва, то хвост яго будзе датыкацца зямлі.



## ДВА СТАДЫ

(*Арыфметычная задача*)

Адзін пастух сказаў другому: „Аддай мне адну авечку, тады ў мяне будзе ўдвая больш авечак, чым у цябе". А той адказаў: „Аддай мне адну авечку, тады ў нас будзе пароўну". Колькі авечак было ў кожнага?

Рэдактар І. МАСАРСКІ Афармленне М. СВЯЦКІ. Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 20.000 экз. Зак. № 886. $2^1/_2$ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № 523.